ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431

Год XXXI № 310 Нью Ёрк — сакавік-травень — 1983 — March-May Vol. XXXI № 310

## НА САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ

**(З рэфэрату др. В. Кіпеля ў Нью Ёрку 4 красавіка 1983 г.)**

Хоць за прамінулыя ад 1918 году 65 гадоў беларускі нацыянальна-незалежніцкі рух мае вялікія дадатныя дасягненьні, ёсьць і шэраг сумных фактаў: Беларусь сёньня знаходзіцца ў цяжкім дэмаграфічным стане — чысты прырост жыхарства стала зьніжаецца ды ў сярэдзіне 1970-ых гадоў стаўся найменшым прыростам у Савецкім Саюзе. Распачаты яшчэ ў сярэдзіне 1950-ых гадоў выезд маладога жыхарства зь Беларусі (улады імкнуцца давесьці, што гэта — зьява дабраахвотнага парадку) прывёў да таго, што Беларусь за гэтыя тры дзесяцігодзьдзі страціла блізу міліён маладых жыхароў.

Няцікава выглядае статыстыка беларускамоўнага друку на Беларусі: абнізіўся тыраж літаратурных часапісаў „Полымя", „Маладосьць" і „Беларусь", тымчасам як тыраж расейскамоўнага „Немана" вырас у колькі разоў і становіць цяпер 120 тысячаў экзэмпляраў. Лік выдаваных пабеларуску кніжак і брашураў ды іхны агульны тыраж стаяць на месцы, а лік расейскамоўных кніжак і брашурных выданьняў бязупынна расьце.

І вось калі аналізуеш гэтыя дадзеныя, прыгадваюцца выказваньні царскіх расейскіх чыноўнікаў, зробленыя блізу сотню гадоў таму. Гэтак, у 1890 г. адзін з царскіх цэнзараў Рафальскі, калі яму сказалі, што пачалі зьяўляцца сям-там беларускія кніжкі, выказаўся: „Беларускі рух трэба прыдушыць у самым зародку, бо пасьля мы будзем мець такі самы клопат як і з Украінцамі". А ў газэце „Московские Ведомости" ў 1910 г. пісалася гэтак: „Было-бы весьма желательно, если-бы православные белоруссы, даже и белоруссы католики, высылались-бы в наши пусутющие земли".

Дык фактычна, жаданьні расейскіх чарнасоценцаў ужыцьцяўляюцца сягоньня! Насельніцтва беларускае вывозіцца, беларуская мова па гарадох сталася характэрыстыкай невялікае групы інтэлігенцыі, русыфікацыя ахапіла ня толькі горад, а й вёску.

Пасьля абвешчаньня 25-га Сакавіка Расея ўсьведаміла сабе, што калі Беларусаў ня вынішчылі да 1918 году і яны падняліся, дык трэба гэтае вынішчэньне праводзіць больш радыкальна. Для нас, Беларусаў, павінна было-б стацца таксама ясным, што абвешчаньне Незалежнасьці 25 Сакавіка 1918 г. значыць новы этап для народу: этап узмоцненага варожага наступу. Гэта значыла, што рэакцыя на абвешчаньне Незалежнасьці з боку і Расейцаў і Палякоў будзе жорсткай. Ды гэтак яно і сталася.

Ад 1920-ых гадоў на Беларусі пануе заплянаваны тэрор-вынішчэньне людзей. Спачатку ў Польшчы — працэс Грамады ды тысячы экзэкуцыяў польскае паліцыі над беларускім насельніцтвам. З другога боку мяжы пасьля невялікае адлігі ў БССР — вынішчэньне дзесяткоў тысячаў інтэлігенцыі, сялянства, моладзі (працэсы нацдэмаў, БНЦ, раскулачваньне, „ворагі народу").

Гэта толькі большыя этапы масавага вынішчэньня народу. Працягваецца гэтае вынішчэньне, ды з большай сілай яшчэ, і па Другой сусьветнай вайне, бо вораг пабачыў, што калі народ узяўся за зброю (Беларуская Краёвая Абарона, Беларуская Паліцыя й г. д.), дык значыцца рух усьцяж мацнее, а супрацьдзеяць гэтаму ўзмоцненьню можна толькі фізычным вынішчэньнем.

Аднак, калі ў сябе на тэрыторыі імпэрыі вынішчаць можна фізычна, дык вонках імпэрыі фізычнае вынішчэньне — справа ня лёгкая. Гэтае вынішчэньне мусіць прыняць іншыя формы. Формы гэтыя могуць быць розныя: ачарненьне асобаў, запалохваньне, шантаж, подкуп і г. д. Сутнасьць-жа застаецца тая самая — зьнішчыць беларускі нацыянальна-палітычны рух.

У гэтым і толькі ў гэтым аспэкце трэба разглядаць чародную спробу пашкодзіць беларускаму нацыянальнаму руху (зьнішчыць яго ўсё-ж ня ўдасца!)) справай-афэрай Лёфтуса.

Ведаючы, што фашызм яшчэ балючае пытаньне на Захадзе, яны — Лёфтус і Масква — паспрабавалі зьвязаць беларускі нацыянальны рух з нацызмам! З нацызмам у гітлераўскай форме. Варта коратка затрымацца на гэтай апошняй афэры.

Перш-наперш, чым была выкліканая гэтая справа? Бяссумлеўна, што гэтая Лёфтусавая афэра была выкліканая беларускай палітычнай дзейнасьцяй. Як мы, гэтак і нашыя ворагі добра ўсьведамляем, што наш нацыянальна-вызвольны рух, справа беларускае незалежнасьці, на Захадзе паступова здабывае і прыхільнікаў і зразуменьне. Захаду стаецца ясьней і ясьней, што для забясьпечаньня міру ў сьвеце, канечна трэба распарцыляваць маскоўскую імпэрыю, аднавіць незалежнасьць Беларусі ды іншых паняволеных сёньня народаў і дзяржаваў.

Нашая палітычная дзейнасьць паваеннага пэрыяду ў працэсе ўсьведамленьня Захаду ды абароны нашых нацыянальных інтарэсаў дае нядрэнныя вынікі. І вось гэтую дзейнасьць трэба неяк спаралізаваць, бо вынішчыць фізычна беларускіх нацыянальных дзеячоў магчымасьці ня было, усіх ня вынішчыш. Аднак збэсьціць нацыянальны рух, што да пэўнай меры падкасіла-б ягоную эфэктыўнасьць, паспрабаваць было варта.

Знайшоўся небарака Лёфтус. Справа закіпела: з уласьцівай амэрыканскаму бізнэсу энэргіяй запрацавалі тэлебачаньне, газэты, лятучкі, рэкляма. Сьледам пайшлі савецкія сродкі масавае кумунікацыі. Сфабрыкаваны быў сюжэт, у цэнтры якога рэжысэры імкнуліся паставіць беларускі рух і зьвязаць яго з нацызмам.

Задумана было яно шырака, з размахам: сотні газэтаў і тэлевізійных станцыяў загаварылі пра Беларусь. Здавалася, тут беларускай эміграцыі ня ўстояць — усіх выдадуць Саветам! Аднак ня ў той бок пайшло!

На другі-ж дзень пасьля таго памятнага паказу Лёфтуса ў травені летась, пасыпаліся ў газэты лісты-пратэсты, пачаліся інтэрвію, беларускія эмігранты пачалі тлумачыць, змушаць тэлебачаньне й газэты на адказы, выкліканая была дыскусія. А гэта было ўжо на нашу карысьць. Мы маглі вытлумачыць што да чаго, хто зьнішчаў беларускі народ, хто прадаўжае нішчыць Беларусь, якія прычыны былі, каб Беларусы пачалі супрацоўнічаць з Немцамі й г. д. Коратка — мы атрымалі рэкляму й змаглі прадставіць свой пункт гледжаньня. Гэткім парадкам і гэтая чародная афэра Масквы, каб нанесьці моцны ўдар па нашай палітычнай дзейнасьці, пайшла бурбалкай — мы з гэтага скарысталі.

Сёлетні Сакавік і леташні год — довад таму, што з нашым голасам лічацца: мы атрымоўваем тысячы лістоў, запытаньняў аб нашым руху, беларускім змаганьні, беларускай дзейнасьці. Сёлета мы атрымалі тэлеграмы ад прэзыдэнта ЗША, ад віцэ-прэзыдэнта, дзесяткоў сэнатараў, кангрэсмэнаў, Дзяржаўнага Дэпартамэнту. У выніку леташняга брутальнага нападу на нас беларуская дзейнасьць набыла новы кірунак, пашырылася, зрабіла больш канкрэтныя крокі. І гэта, бясспрэчна, заслуга нас усіх — носьбітаў ідэі Незалежнасьці Беларусі, ідэі Сакавіка!

## ПАМЕРЛА ЛАРЫСА ГЕНІЮШ



Адзінай мэты не зракуся
і сэрца мне не задрыжыць:
як жыць—дык жыць для Беларусі.
А безь яе — зусім ня жыць.

**Ларыса Геніюш**

Менская газэта „Літаратура й Мастацтва" зь 15-га красавіка разьнесла па сьвеце сумную вестку: „7-га красавіка 1983 г., на 73-ім годзе жыцьця памерла паэтэса Ларыса Геніюш". Пад нэкралёгам падпісаліся сямёра: Максім Танк, Данута Бічэль-Загнетава, Юрка Голуб (сын Нябожчыцы), Вольга Іпатава, Уладзімер Караткевіч, Адам Мальдзіс і Аляксей Пяткевіч. Афіцыйна ад Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, да якога паэтка не належала ў моц ейнага мінулага ды ў моц ейных перакананьняў, нічога ня было сказана ў „ЛіМ-е".

Пакольки Ларыса Геніюш ня была ў пісьменьніцкай арганізацыі, дык прозьвішча ейнае ня фігуруе нідзе і ў біяграфічных даведніках, ейны жыцьцёвы шлях — цяжкі, цярністы й авеяны рамантыкай службы Роднаму Краю — мала ве-

**(Заканчэньне на б. 2-й)**

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ, НАБОЖНАМУ МАНАСТВУ І ЎСІМ БАГАЛЮБНЫМ ВЕРНІКАМ НАРОДУ БЕЛАРУСКАГА**

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

У радасьці мы сьвяткуем Боскае Ўваскрошаньне, цуд над цудамі нашай веры, найвялікшае здарэньне ўва ўсёй гісторыі. Хрыстос Уваскрос! Мы вітаем адзін аднаго на Вялікдзень і праз наступныя сорак дзён. Гэтымі словамі мы вітаем родных, прыяцеляў і знаёмых.

На Вялікдзень пры хрыстосаваньні мы радасна абыймаем адзін аднаго, цалуем і выбачаемся з правінаў. Так, Дарагія мае, ня ўсе, але ёсьць і тыя закамянелыя, што ня могуць выбачаць. Госпад наш вучыў нас ня жорсткімі, а лагоднымі быць. Мы хрысьціяне, навучаныя выбачаць. „Бо калі вы будзеце выбачаць людзям правіны іхныя, то выбачыць і вам Айцец ваш нябесны" (Мц. 6:14), кажа Госпад. А сьв. ап. Павал проста загадвае: „І будзьце зычлівыя адзін да аднаго, спагадлівыя, выбачаючы адзін аднаму, як і Бог у Хрысту выбачыў вам" (Ахв. 4:32). І мы выбачым тым, хто зло чыніць нам, бо яны ня ведаюць і не сьвядомыя таго, што яны чыняць. Вітайма іх і ўсіх: **Хрыстос Уваскрос!**

На Вялікдзень словы „Хрыстос Уваскрос" рэхам разыходзяцца па ўсім сьвеце. Хрыстос Уваскрос, і ніякае слова ня можа перадаць гэтую радасьць, якую мы вычуваем у нашых сэрцах. Як мы слухаем апісаньне гэтай падзеі ў Сьвятым Пісьме, мы жагнаемся й кажам: „Слава Табе, Госпадзе, слава Табе". Мы жывём у таямніцы нашай веры й ня ў сіле належна выявіць яе.

Таямніца уваскрасеньня знаходзіцца паза магчымасьцяй ахапіць яе нашым розумам. Мы мусім перш разумець, чаму Госпад даў Сабе памерці. Сьв. ап. Павал гэтак тлумачыць: „Затым, як праз аднаго чалавека (Адама) ўвайшоў на сьвет грэх, а праз грэх — сьмерць, так увайшла сьмерць на ўсіх людзей, бо ў ім усе зграшылі" (Рым. 5:12). „Бо адплата за грэх — сьмерць" (Рым. 6:23). І далей на вышэй пастаўленае пытаньне ап. Павал ужо ясна кажа: „Хрыстос памёр за грахі нашы" (І Кар. 15:3).

Усё чалавецтва засуджанае праз грэх на сьмерць, і Бог не папусьціць у законе Сваім. Але Бог не пакінуў людзей, каб у граху памерлі. У Сваім пляне Ён учыніў шлях збаўленьня, выбачэньня, каб выбавіць людзей з граха. Нехта мусіў панесьці кару за грэх, — памерці, — за людзей, каб было ім выбачана. Гэта мусіў быць той, хто без граха, каб ягоная сьмерць магла выкупіць людзкі грэх. Сьв. эвангеліст Ян кажа: „Бо так палюбіў Бог сьвет, што Сына Свайго адзінароднага Ён аддаў, каб кажны, хто веруе ў Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае" (Ян 3:16). А Сам Госпад і Збаўца наш Ісус Хрыстос пра Сябе кажа: „Бо кажу вам, што напісанае мае выпаўніцца на мне" (Лк. 22:37). „Ён аддаў душу Сваю на сьмерць, і да злачынцаў залічаны, і панёс грахі шмат каго" (Ісая 53:12).

Госпад наш Ісус Хрыстос ажыў праз уваскрошаньне, устаў з магілы, Хрыстос уваскрос таму, бо Ён, як бязгрэшны, не заслугоўваў на сьмерць. Калі-б Ісус Хрыстос ня быў услаўлены праз уваскрасеньне , тады ўсе тыя, што ўмерлі ў Хрысту, асталіся-б мёртвымі навекі. Дзеля гэтага сьв. ап. Павал выясьняе: „А калі Хрыстос не ўвакрос, дык вера вашая бескарысная: вы яшчэ ў грахох сваіх; тады й тыя, што заснулі ў Хрысту, загінулі-б" (І Кар. 15:17-18). Але Хрыстос запраўды ўваскрос зь мёртвых. Ён жыве, каб паслужыць пакліканым на збаўленьне. Таму, што Ён жыве, мы маем вялікую надзею, „мы сталіся, паводля надзеі, спадкаемцамі вечнага жыцьця" (Ціт. 3:7).

Прарок Ісая ў натхненьні піша: „Дзіўны, Райца, Бог дужы, Айцец вечнасьці, Князь супакою. Павялічэньню ўлады й супакою ня будзе канца на пасадзе Давідавым і ў каралеўстве Ягоным, аж пакуль іх зацьвердзіць і ўмацуе ў судзе й справядлівасьці адгэтуль аж на векі. Старанасьць Госпада войска ўчыніць гэта" (Ісая 9:6-7). І ўсё гэта будзе дасягнута тым, хто верыць у тое, што Бог адкрыў нам мэту нашага існаваньня. Праз людзкое нараджаньне, як несьмяротыя істоты, праз уваскрошаньне ў валадарстве вялікага БОГА, Творца пашырыць Сваю ўладу й кіраваць будзе жыцьцём сьвятой сям'і на ўсе канцы сьвету.

Хрыстова ўваскрошаньне, як таямніца, — ня толькі гістарычнае здарэньне, але штосьці, чым мы жывём кажны дзень. Ня толькі ў апостальскія часы, але нават цяперашнім часам нязьлічона людзей, якія хутчэй жыцьцё аддадуць, чым будуць запярэчваць уваскрасеньне Хрыста. Апосталы ведалі, што іхны Госпад і Настаўнік уваскрос, таму яны борзда распаўсюджвалі Эвангельле ўваскрослага Хрыста. У гэтай веры й пераканаьні сьвятая Царква праз сорак дзён штагоду ўрачыста сьпявае „Хрыстос Анэсты! — Хрыстос Уваскрос!" І ўжо амаль 2000 гадоў вернікі радасна адказваюць „Алетос Анэсты!" — Запраўды Уваскрос!".

З гэтымі роздумамі й малітоўным пажаданьнем сардэчна вітаю ўсіх Вас з радасным Сьвятам — Уваскрасеньнем Хрыстовым.

Ласка, міласэрдзе й адабрэньне Ўваскрослага Госпада нашага Ісуса Хрыста няхай будуць з усімі Вамі, напаўняючы духовай радасьцяй сэрцы Вашыя.

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Вялікдзень 1983 г.
Таронта, Канада.

**З ласкі Божае пакорны МІКАЛАЙ,
Архіепіскап Беларускае Аўтакефальнае
Праваслаўнае Царквы.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ МІХАСЯ КАВЫЛЯ

### МОЙ ПРАРОК

Дні, як сьцёртыя цэнты звоняць
У сусьветнай скарбонцы на дне,
І лятуць, як шалёныя коні,
Ня ўтрымацца за грыву іх мне...

Аглянуся назад — страшна стане:
Як ваўкі, у мае сьляды
За манашкай у чорнай сутане
Зь цяжкім стогнам ступаюць гады:

І галодныя, і халодныя
Із канцлягеру, із вайны...
Сэрца жаляць песьні родныя.
Як хатыньскія званы.

А наперад зірну — ўцехі мала:
Ваўкалакаў ня моўкне „вой",
Як скула, злом зямля набрыняла,
Вось праўвецца агнём і крывёй.

Настрадамус
зьгін сьвету прарочыць...
Ня дрыжу я: страх лёг каля ног,
Бо зь мяне ня спускае вочы
Мой Прарок — Усемагутны Бог.

21 сакавіка 1983 г.

### МЫ ШУКАЕМ СВАЮ ЦАЛЯСТЫНУ...

Нечакана віновы лёг туз
У змаганьні на сьмерць і жыцьцё.
Замахнууўся чырваю Лёфтус:
Бруд іржавы з карты пацёк...

У тым брудзе, зь цёмнай начынкай,
Ёсьць уцехі крупінка адна:
Спрытны Лёфтус дурным учынкам
Нас, разьдзеленых, аб'яднаў.

Хай ня бзыкаюць лёфтусаны,
Пракапцелыя злосьцю тхары:
Я ня супраць, каб быў пакараны
Той, хто чорную подласьць тварыў.

У сям'і, кажуць, не без уроду.
Ды, ці-ж віна ўва ўсім сям'я?
Нам, сыном зь мяккім сэрцам
народу,
Гітлер, Ленін ні брат, ні сваяк.

Мы шукаем сваю Палястыну...
Сьцяг наш з сьмерцю ня йшоў, ня
ідзе.
І, як брату, Давідаву сыну
Сьмела можам у вочы глядзець.

22 сакавіка 1983 г.

## „ГОЛАС АМЭРЫКІ" ПАБЕЛАРУСКУ

Як паінфармаваў пісьмова старшыню БАЗА сп. А. Шукелайця сэнатар-рэспубліканец Боб Доўл, беларуская мова будзе ўведзеная ў перадачы амэрыканскае ўрадавае радыястанцыі „Голас Амэрыкі" пры плянаваным цяпер пашырэньні ейных праграмаў. Пра гэткую пастанову „Голасу Амэрыкі" сэнатар Доўл сказаў таксама ў сваім выступленьні з нагоды 65-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі (гл. „Кангрэш. Рэкорд", 25. III. '83).

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.
**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
**Выходзіць месячна.** Рэдагуе Калегія.
**Выдае:** Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.**

# ЛАРЫСА ГЕНЮШ

**(Заканчэньне з б. 1-й)**

дамы пераважнай бальшыні прыхільнікаў ейнае творчасьці на Беларусі, якіх, выглядае, у яе там шмат, як і ў замежжы.

Крышачку біяграфічных фактаў згадалі ў лімаўскім нэкралёгу падпісаныя пад ім сямёра сяброў, але сказалі няшмат і няпоўна, прамоўчаўшы, бязумоўна, пра факт ейнага шматгадовага зьняволеньня ў канцлягеры. Калі ў 1956 годзе паэтка вярнулася із зьняволеньня дамоў, яна ў вадным зь лістоў „на Захад" пісала пра сябе й мужа (5. VIII. 1956):

„... Мы абое яшчэ здаровыя, толькі вельмі вычарпаныя нэрвова... Часта дакучае моцны боль галавы.... Калі-б мы ізноў захварэлі — не забывайце, калі ласка, дзіцяці. Прашу пра гэта вельмі ўсіх маіх прыяцеляў. Хочацца верыць, што іх яшчэ маем...

„Муж працуе лекарам, шчасьлівы, што мае працу... Я не працую нідзе, гаспадару памалу ў нашым вельмі, вельмі старым доме. Зарабляе муж вельмі мала, але нашыя вымаганьні яшчэ меншыя, дык хапае.

„Мой брат загінуў у змаганьні... Кажны кує лёс сабе сам. Я не хацела ісьці дарогай нашага супольнага прыяцеля Максіма й таму было мне блага. Гадоў сем ня ведала навет дзе мой муж... У нашай сям'і ўсе былі моцныя. Сіла гэтая ўратавала й мяне — сіла рук і крыху сіла духа... Я моцна пастарэла, зьмянілася на твары, але — толькі на твары.

„Абыходзяцца з намі ветліва й добра, суляць працу па спэцыяльнасьці. Вельмі ветліва адкладаю гэта на пазьней. Як доўга буду адкладаць — ня ведаю...

„Ці помняць аба мне мае прыяцелі? Ня думайце, што мая прыязьнь, гэта вецер. Яна — мур, як і кажнае напісанае калісьці мною слова... Спадзяюся, што цяпер усё будзе спакойна й добра. Тут цэняць людзей працавітых і людзей добра выхаваных.

„Сьляпы лёс бывае часам і мудры, бо пасылае моцных людзей там, дзе іншым цяжка. Кажу гэта пра сваю папярэднюю кватэру. Там часта мяне называлі не маім імём, а ,матуляй', маткаю дзяцей векам старэйшых і ад мяне. Гэтак было. Пісаць больш не выпадае. Баюся болю галавы... Шчыра цісну рукі... — Л. Г.".

Біяграфія Ларысы Генюш — гэта перш-наперш біяграфія духу й замілаванасьці сваім краем, сваім народам, справаю службы яму. Данута Бічэль-Загнетава, якую лучыла зь Нябожчыцай паэтычная творчасьць і глыбокая дружба, гэтак пачынае свой уводны артыкул да Генюшынага апошняга зборніка вершаў „На чабары настоена" (Менск, выд. „Маст. літ.", 1982):

„Ларыса Генюш стварае свае вершы, быццам прадзе дзівосны кужаль і тчэ на бабуліных кроснах узоры ў ромбікі зь беларускіх патаемных слоў".

Пра сябе ў друку Нябожчыца ня шмат пакінула вестак. Ці не найпаўней ейная біяграфія дасавецкага пэрыяду задакумэнтаваная ў менскай „Беларускай Газэце" (№79 за 25. X. 1942), дзе разам з аўтабіяграфічнай даведкай была зьмешчаная й падборка з кагадзе тады выданага ў Празе ейнага першага зборніка вершаў „Ад родных ніў". Паэтка пісала:

„Я нарадзілася 27. VII. 1910 г. ў Жлобаўцах, Баўнянскай воласьці, Горадзенскага павету. Дзявочае маё прозьвішча — Міклашэвічанка. Род наш стары, беларускі, паходзіць з Крынак, зроденны там з старымі лясунамі, чамялямі, шараметамі і інш. З часоў сусьветнае вайны засталося мне ў памяці суровае ўцякацтва і паварот у 1919 г. ў родныя Жлобаўцы. Пачатковая польская школа і польская гуманістычная гімназія ў Ваўкавыску — мая адукацыя. Беларускаю школай былі для мяне нашыя сяляне й вёска, асабліва моладзь. Ад яе я пачула першы раз, апрача народных нашых песьняў, і ,Жыў на сьвеце Лявон'. Яе долю перажывала ў сваім, можа крыху дзікім, але вельмі гарачым сэрцы. Супроць строгіх, часта нават актыўных пратэстаў бацькоў, якія ўважалі сябе ,панамі', нейкая салодкая, незразумелая сіла цягнула маё сэрца ў сяло. Пах торпы і лёну, які я чула, праяжджаючы праз вёску, вабіў мяне заўсёды за стол да сваіх. Кажная нашая сялянка была для мяне як маці, кажная дзяўчына — сястра. Пачуцьцё маё мне шчыра адплачвалі.

„У 1934 г. я выйшла замуж за др. Янку Генюша, які першы даў мне нашы кніжкі, адкрыў мне вочы на мінуўшчыну нашую й крыўды, якія мы цярпелі на нашай роднай зямлі. Чытаў мне Купалу.

„У 1938 г. я мусіла выехаць у Прагу, дзе жыў і студыяваў мой муж. У мяне ўжо быў прыгожы хлопчык. Я тут сустрэлася з нашай эміграцыяй, але ейныя інтарэсы не заспакоілі маіх жывых парываньняў, я зноў вярнулася сэрцам і думкамі ў нашае сяло.

„Пачаліся вялікія падзеі. Сэрца пачало бушаваць ахвотай да творчае, запраўднае працы для Краю. Зьявіліся нашыя палонныя, хацелася сьпяваць ім нешта роднае, нешта добрае, нешта сваё — таму я пачала пісаць. Я пішу ўжо ад школьных гадоў. Нешта пасылаць у друк — ня было неяк сьмеласьці. Сяньня-ж, калі знаю больш нашую мінуўшчыну, нашыя крыўды й нашыя правы — не магу ня пісаць, ня клікаць сваіх дарагіх братоў да змаганьня, да найбольшых ахвяраў і чынаў для пакрыўджанага нашага народу. Не магу стрымаць ужо гэтае буры, якая сабралася ў набалелых грудзёх із крыўдаў, сьлёзаў і болю Нашай Зямлі. — Ларыса Генюш.".

Паэзія Ларысы Генюш — гэта ня толькі „боль Нашай Зямлі", гэта таксама й баёвы, аптымістычны дух Нашай Зямлі, нязломнасьць волі „жыць для Беларусі". Пра гэта сьветчыць безьліч ейных цудоўных сьпеўных вершаў, частка якіх пакладзеная на музыку. Да ліку іх належыць і верш „Ня сумуйце", які паэтка напісала ў гадох ваеннага ліхалецьця — якраз, магчыма, з думкай пра „нашых палонных", ад сустрэчы зь якімі ёй „хацелася сьпяваць нешта роднае, добрае". Маральная моц гэтага верша, як і ўсяе ейнае творчасьці, патрэбная й нам сяньня ў мамэнты цяжкіх стратаў, ростані з тымі, зь кім мы доўга былі й каго любілі:

Ня сумуйце, дзяцюкі, вясною,
на магілы гледзячы сяброў —
жалем нашых ранаў не загоіш
і цяжкіх ня сьцінеш ланцугоў.
Ня сумуйце, дзяцюкі, па сёлах
і па вочах кінуных дзяўчат —
бо змаганьне пеніцца, як солад,
маладыя поклічы гучаць.
Ня сумуйце, дзяцюкі, па долі,
ня хілеце гордай галавы,
бо ня з жалю, толькі з ранаў, болю,
воля толькі родзіцца з крыві.
Ня сумуйце, дзяцюкі, начамі —
ўжо ня дасца спутаць вольны дух!
Мы былі і будзем Крывічамі
ад хваль Угры аж па сіні Буг!

Вечная памяць Ларысе Генюш. Ейны бадзёры дух будзе заўсёды з намі, з нашым народам, у змаганьні за правы й свабоду Беларусі.

**Арсень Загорны**

## СПАДЧЫНА Л. ГЕНЮШ

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва зьбірае матар'ялы — лісты, рукапісы вершаў, успаміны ды іншыя дакумэнты й сьветчаньні — зьвязаныя з жыцьцём і творчасьцяй нядаўна памерлае сьв. пам. Ларысы Генюш.

Матар'ялы просіцца слаць на наступны дрыс:

Byelorussian Institute of Arts & Sc.
230 Springfield Ave.
Rutherford, N. J. 07070
U.S.A.

# 65-Я ЎГОДКІ АКТУ 25 САКАВІКА

### У АДЭЛЯЙДЗЕ (АЎСТРАЛІЯ)

65-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі былі адзначаныя сёлета ў Адэляйдзе вельмі ўрачыста 27 сакавіка. Упяршыню былі запрошаныя на сьвяткаваньне госьці: старшыня Аддзелу Этнічных Справаў на Паўдзённую Аўстралію сп. Б. Крумінс, старшыня Рады Этнічных Групаў у Пдз. Аўстраліі сп. І. Гулбіс, старшыня Лятувіскага Аб'еднаньня ў Адэляйдзе сп. І. Замойскіс ды заступнік старшыні Сэрбскага Аб'еднаньня ў Пдз. Аўстраліі сп. Драгацэвіч.



**Удзельнікі канцэрту на 5-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў Сыднэі 30. XII. 1982 г.**



**Пікнік 5-е Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі 1. I. 83 (гл. „Беларус" №308-9)**

Надвор'е стаяла цудоўнае. Прыемная пагода дала магчымасьць госьцям разгледзець наш беларускі куточак, нашу ўтульную сядзібу, якая наведвальнікам вельмі спадабалася сваім акуратным упарадкаваным выглядам.

Сьвяткаванне, як яно водзіцца з году ў год, пачалося багаслужбай. Царква была запоўненая людзьмі. Сьв. Літургію адправіў а. Аўген. У часе малебну стаяла ганаровая варта зь беларускім і аўстралійскім сьцягамі, а паабапал сьцягоў — нашы юначкі ў нацыянальнай вопратцы. Па сканчэньні малебна хор пад кіраўніцтвам рэгента Міхася Бурноса прапяяў „Многая лета" гіерархам БАПЦ: Мітрапаліту Андрэю, Архіепіскапу Мікалаю й Епіскапу Ізяславу ды ўсяму беларускаму сьвятарству й народу.

Па царкоўна-рэлігійных абрадах адбылася афіцыйная частка, якую адчыніў старшыня парахвіяльнае рады сп. К. Станкевіч. Хор пад кіраўніцтвам сп. Бурноса й пад акампанімэнт акардыяніста М. Кандрусіка выканаў гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Сп. Станкевіч прадставіў гасьцей, прачытаў прысланыя прывітаньні ды зрабіў зьмястоўны рэфэрат на тэму дня. Рэфэрат паангельску аб гісторыі 25 Сакавіка прачытала сп-ня Натальля Якша.

Старшыня Аддзелу Этнічных Справаў сп. Крумінс у вельмі цікавай прамове гаварыў пра 25 Сакавіка й беларускую дзяржаўнасьць да 1795 году, а таксама пра далейшае змаганьне Беларусаў за незалежнасьць. Далей прамоўца адзначыў, што Аўстралія, як шматкультурная дзяржава, наколькі можа дапамагае сваім этнічным групам арганізаваць этнічныя школы, прызнае замежныя дыплёмы, дае грашовыя дапамогі й г.д. Сп. Крумінс пажадаў Беларусам Аўстраліі, каб перахоўвалі сваю мову, традыцыі, культуру ды перадавалі гэтае духовае багацьце сваім нашчадкам.

Старшыня Рады Этнічных Групаў сп. Гулбіс, прывітаўшы Беларусаў з угодкамі незалежнасьці, пажадаў, каб Беларусы дэманстравалі перад вольным сьветам сваю жывучасьць і справу змаганьня за дэмакратычную Беларусь.

Сп. Замойскіс таксама вітаў з 65-мі ўгодкамі ды зазначыў, што беларускі й лятувіскі народы калісьці змагаліся разам за сваю незалежнасьць ды заклікаў да лятувіска-беларускага супрацоўніцтва і ў далейшым змаганьні за незалежнасьць абодвых народаў.

Па афіцыйнай урачыстасьці а. Аўген блаславіў ежу на сталох, пачаўся супольны абед, падрыхтаваны нашымі руплівымі жанчынамі. Час мінаў пры гутарках ды інфармаваньні гасьцей аб жыцьці Беларусаў у Аўстраліі й вольных краінах Захаду.

Тады пачалася мастацкая частка пад кіраўніцтвам нястомнага сп. Міхася Бурноса, што аддае ўсе свае сілы й здольнасьці на карысьць беларускага царкоўна-грамадзкага жыцьця ў Адэляйдзе. Хор выканаў тры песьні: „Падняты родны сьцяг дзяржавы", „Шкода-шкода мне краіны" ды „Раманец". Танцавальны гурток „Лявоніха' зачараваў гледачоў „Крыжачком", ансамбль выканаў „Беластоцкую зямлю" й „Не пагаснуць зоркі ў небе", ды зноў танцавальны гурток — „Мяцеліцу". А на заканчэньне нашы знатныя сьпявачкі Вольга Бурнос і Галіна Кандрусік прапялі жартоўныя „Беларускія прыпеўкі". На працягу ўсяе мастацкае часткі заля гудзела адвоплескаў публікі.

Беларускае Аб'еднаньне ў Паўдзённай Аўстраліі й парахвіяльная рада прыходу сьв. Пятра й Паўла выказваюць шчырую падзяку ўсім, хто ўзяў актыўны ўдзел у арганізацыі й правядзеньні нацыянальнага сьвяткаваньня.

**Янка Яр**

### У МЭЛЬБУРНЕ (АЎСТРАЛІЯ)

У Мэльбурне 65-я ўгодкі 25 Сакавіка сьвяткавалі двойчы: 20 сакавіка ў парахвіі БАПЦ і 27 сакавіка ў Беларускім Доме.

20-га сакавіка а. А. Кулакоўскі пасьля Літургіі адслужыў малебен за Беларускі Народ. У прыцаркоўнай залі адбыўся зрыхтаваны сястрыцтвам парахвіі пачастунак з праграмай — кароткім інфармацыйным дакладам на тэму дня й мастацкай часткай пад кіраўніцтвам сп-ні Т. Басарыновіч. Дзяўчаткі ў нацыянальнай вопратцы выканалі тры беларускія песьні пад акампанімэнт гітараў. Удэкараваная кветкамі заля была поўная людзей. Настрой быў сьвяточны й прыемны.

27-га сакавіка ў Беларускім Доме адбылася, ладжаная Беларускім Цэнтральным Камітэтам, акадэмія. Пачалася яна тым, што мяшаны хор пад кіраўніцтвам сп-ні Л. Яцкевіч выканаў аўстралійскі гімн і беларускі рэлігійны „Магутны Божа".

Сп. У. Сідлярэвіч, старшыня БЦК, фармальна адчыніў акадэмію, прывітаў прысутных, якіх зьйшлася поўная заля, ды прачытаў прывітаньні ад Беларускага Вызвольнага Фронту, Беларускае Цэнтральнае Рады, Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, Кангрэсавага Камітэту ў Чыкага, Каардынацыйнага Камітэту ў Канадзе, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, Беларусаў у Сыднэі і ў Адэляйдзе.

Сп-ня Г. Груша прачытала прывітаньні ад Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, а сп. М. Скабей прачытаў верш-прывітаньне ад Ларысы Генюш.

Рэфэрат на тэму дня зрабіў сп. М. Нікан. Хвілінай цішы была ўшанаваная памяць тварцоў Акту 25 Сакавіка ды ўсіх змагароў за Беларусь. Па кароткім папаўняльным рэфэраце пра БЦР сп. У. Сідлярэвіча пачалася мастацкая частка.

Мяшаны хор пад кір. сп-ні І. Яцкевіч выканаў дзьве песьні: „Падняты родны сьцяг" і „Ох, ты Нёман-рака". Па дэклямацыях вершаў Натальлі Арсеньневае (сп. Скабей — „Ён" і сп-ня Вера Шайпак — „Беларусь") ансамбль дзяўчат пад кір. сп-ні Т. Басарыновіч, пад акампанімэнт гітараў, прыгожа выканаў тры песьні: „Ой, хацела мая маці", „Хлопец пашаньку пахае" й „Ручнікі" ды пратанцаваў адзін народны танец. Выканальніцы былі ўзнагароджаныя за гэта гучнымі воплескамі.

Сп. П. Гуз прачытаў верш „Гамоняць праўды дзьве" Алеся Салаўя, а сп-ня Л. Яцкевіч — верш „Ня плач".

Жаночы хор выканаў дзьве народныя песьні: „Шумяць лясы зялёныя" й „Радзілася ў Беларусі". Мяшаны хор прапяяў „А там у полі" ды гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" закончыў мастацкую частку.

Сп. У. Сідлярэвіч, зачыняючы акадэмію, падзякаваў удзельнікам мастацкае часткі за працу, а прысутным — за прыбыцьцё.

Завяршылася сьвяткаваньне прыемным сяброўскім вечарам.

**М. Нікан**

### У ЛЁНДАНЕ (АНГЕЛЬШЧЫНА)

Угодкі Незалежнасьці адбыліся тут 25 сакавіка ў залі Беларускае Бібліятэкі й Музэю імя Ф. Скарыны й былі арганізаваныя ўправаю лёнданскага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. Акадэмію адчыніў старшыня аддзелу сп. Я. Сяўковіч. Прывітаўшы прысутных з угодкамі слаўнага Сакавіковага Акту, ён папрасіў ушанаваць хвілінай цішыны памяць усіх тых, што змагаліся за ўжыцьцёўленьне гэтага Акту ды аддалі ў змаганьні сваё жыцьцё. Былі зачытаныя прывітальныя тэлеграмы й лісты ад Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча, начальніка Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту Д. Касмовіча, старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антона Шукелайця, старшыні Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі (Аўстралія) сп. У. Сідлярэвіча, ад Згуртаваньня Беларусаў Канады з подпісам сакратара др. Раісы Жук-Грышкевіч ды ад сакратара ЗБВБ сп. Н. Навары, які знаходзіцца ў шпіталі й цяжка хворы.

На тэму дня, апрача сп. Я. Сяўковіча, прамаўлялі сп.сп. Я. Міхалюк, старшыня ЗБВБ, і сп. А. Здановіч, які адзначыў, што Акт 25 Сакавіка—гэта фундамэнт адраджэньня дзяржаўнасьці Беларусі, на карысьць чаго працуюць расьселеныя па цэлым шырокім сьвеце Беларусы, выконваючы, дзе-б яны ні жылі, ролю амбасадараў свае Бацькаўшчыны. У дадатак сп. Здановіч прачытаў верш Алега Салтука „Беларусы".

Акадэмія закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

За супольнымі сталамі вечар перайшоў у сяброўскую сустрэчу, якая доўга трывала ды ў часе якое быў праведзены збор ахвяраў на фонд БНР.

**А.З.**

# 65-Я ЎГОДКІ САКАВІКОВАГА АКТУ

(Заканчэньне з б. 3-й)

Паніхіду адслужыў а. Павал Грынішын (Украінец) у ўкраінскай царкве сьв. Пятра й Паўла. Хорам кіраваў рэгент Сяргей Кавальчук. Айцец Павал азнаёміў прысутных зь гісторыяй беларускага вызвольнага змаганьня. У Паніхідзе ўзялі ўдзел усе прыхаджане: Украінцы, Беларусы й іншыя.

**Аляксандар Шастак**

### У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ (ЗША)

Сакавіковае сьвяткаваньне, наладжанае Сьвяткавальным Камітэтам, адбылося тут у нядзелю 27 сакавіка ў залі ўкраінскае царквы ў Галівудзе.

Сп. Ч. Найдзюк адкрыў урачыстасьць і вёў праграму, якая пачалася выкананьнем амэрыканскага гімну й малітвы „Магутны Божа".

Прывітаньне ад губэрнатара штату Каліфорніі Джорджа Дукмэджана прачытаў Віктар Найдзюк. Губэрнатар выказаў найлепшыя пажаданьні, зазначыў падабенства гісторыі беларускае да гісторыі краю ягонага этнічнага паходжаньня (Арменіі) і далучыў свае малітвы за міліёны іншых на сьвеце — каб яны дачакаліся свабоды.

Сп. Я. А. прачытаў атрыманыя ім тэлеграму ад Нацыянальнага Камітэту Рэспубліканскае партыі і прывітаньне ад штатавага сэнатара Робэрта Бэвэрлі. Сп-ня Юзя Найдзюк прачытала беларускія прывітаньні: тэлеграму ад старшыні галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. А. Шукелайця, ад Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Згуртаваньня Беларусаў Канады, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага, ад рэдактара часапісу „Зважай" сп. К. Акулы, ад прадстаўніка БККА на штат Калярада сп. Хв. Шыбута ды ад сп-ства Вайцяхоўскіх.

Рэфэрат паангельску пра пагляды на амэрыканска-савецкія дачыненьні прачытаў сп. Я. А.

Верш Янкі Купалы „Паўстань" у ангельскім перакладзе добра прадэклямаваў Антон Вініцкі. Гэты самы верш пабеларуску прыгожа сказала сп-ня Каця Вініцкая. Верш Ларысы Геніюш „Еўфрасіньня Полацкая" прачытала сп-ня Юзя Найдзюк.

Праграма закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

Сп. Ч. Найдзюк падзякаваў усім за ўдзел у сьвяткаваньні ды запрасіў на пачастунак.

**Н.**

### У ТАРОНЬЦЕ (КАНАДА)

Дзень 65-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі сьвяткавалі ў Таронце сёлета ў нядзелю 27-га сакавіка. Высокапачэсны Архіепіскап Мікалай адслужыў урачыстую сьв. Літургію, а ў пропаведзі зьвярнуў увагу на характар вялікага нацыянальнага сьвята. Таму, што пагода была добрая, прысутнічалі й навакольныя суродзічы, у тым ліку з Ашавы, Брантфарду, Лёндану й Гамільтону.

У праграме дня вызначаны быў й сход парахвіянаў для выбару дэлегатаў на Надзвычайны Сабор БАПЦ, што мае адбыцца ў Клівлендзе. Відаць, таму яшчэ ў часе сьв. Літургіі зьявіўся ў царкоўна-грамадзкую залю ведамы тут Пятро Шышка із спэцыяльна нарыхтаваным матар'ялам, між якога найважнейшае было пасланьне (ці загад) Мітрап. Андрэя аб забароне Надзвычайнага Сабору БАПЦ. Сябры ўправы парахвіі выпрасілі нежаданага пасланца за дзьверы.

Пасьля заканчэньня царкоўнае службы, калі прысутныя ўжо селі за сталы, каб спажыць страву перад праграмнай урачыстасьцяй, Пятро Шышка зьявіўся зноў, гэтым разам у суправодзе паліцыянта, якому намагаўся, пры сяброх управы парахвіі, даказаць, што яго, нявіннага, набілі й выкінулі. Бязумоўна, улада хутка зарыентавалася, што Пятро Шышка быў тут непажаданым баламутам.

Сёлета цэлы тыдзень ад 20-га да 27-га сакавіка перад Таронцкай ратушай лунаў беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Пасьля ўступнага слова старшыні ЗБК Касьцюкевіча, сп. М. Ганько прачытаў прывітаньне ад мэра гораду Таронта Іглтана. Атрыманыя былі й прывітаньні ад БАЗА, ЗБВБ, Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага і Камітэту ў Лёс Анджэлесе. Ад Старшыні Рады БНР др. Я. Сажыча вітаў Віцэ-старшыня Рады БНР др. Б. Рагуля.

Асноўны даклад на тэму „Як я разумею Акт 25-га Сакавіка" зрабіў Мікола Ганько, які запраўды зацікавіў прысутных, бо цікава выказаўся, як ён, а ў тым ліку й тыя як ён, разумеюць Акт 25-га Сакавіка.

У праграме было заплянаванае ўшанаваньне памяці Ўладзімера Жылкі з нагоды 50-х угодкаў яго мучаніцкай сьмерці.

Пра Жылку коратка гаварыў сп. К. Акула, а пасьля быў праслуханы із стужкі мантаж Жылкавага „Тэстаманту". К. Акула, карыстаючы з нагоды, прачытаў і толькішто напісаны ім верш „Памяці Аркадзя Качана".

Акадэмію закончылі нацыянальным гімнам.

Пасьля кароткага перапынку пачаўся сход парахвіі, у якім узяла ўдзел бальшыня прысутных. Прачытаны быў зварот Архіепіскапа Мікалая ў справе скліканьня Надзвычайнага Сабору ў Клівлендзе ў днёх 27-29 траўня сёлета. Дэлегатамі на Сабор выбраныя сп-ня Оля Грыцук і сп. А. М.

**К. Акула**

# СПАДЧЫНА КУПАЛЫ Й КОЛАСА

(Заканчэньне з б. 4-й)

рускую мову ды надрукавалі беларускай кірыліцай! Вось гэта дык патрыятызм! Але-ж затое як будзе дасьледнік шукаць часапіс „Славянскі Сьвет", калі ён запраўды загалоўлены "Świat Słowiański"? Або часапіс пададзены як „Надзея", а ў запраўднасьці ён загалоўлены "Viltis".

Далей яшчэ больш: італьянскі загаловак энцыкляпэдыі "Enciclopedia Italiana di Scienze, lettere ed arti" перакладзены як „Італьянская энцыкляпэдыя навукі, літаратуры і мастацтва", часапіс "Slovansky Prehled" пададзены як „Славянскі Агляд". Гэтаксама і беларускія друкі лацінкай трансьлітэраваныя ў кірыліцу.

Такое перакручваньне — а інакш яго назваць нельга — проста гвалт над усімі прынятымі правіламі дакумэнтацыі. Гэта зроблена знарок, каб абцяжыць доступ да арыгіналу, найчасьцей несавецкага паходжаньня.

Недакладнасьць у напісаньні прозьвішчаў — таксама частая зьява ў бібліяграфіі. Прыкладам, прозьвішча „Піятуховіч" пададзенае толькі у гэткай форме, хоць звычайна свае артыкулы прафэсар падпісваў „Піотуховіч".

Быў кампазытар Стэповіч, а ён занесены як „Стэпановіч", ды колькі іншых прозьвішчаў перакручаныя.

Некаторыя недакладнасьці, відавочна, карэктарскага недагляду: прыкладам, артыкул А. Бульбы (паз. 2152, том. 4), быў у польскай газэце "Prawda", а ня „Праца", як пададзена ў бібліяграфіі. Але гэта ўсё драбнейшыя, тэхнічныя памылкі, хоць і іх павінна было-б быць меней у акадэмічным выданьні.

І на канчатак гэтага кароткага агляду ўліку коласаўска-купалаўскае спадчыны хачу гэтта папытацца ў тых, хто над гэтым працуе:

— Ці гэта загады з Масквы, ці боязь перад Масквой, ці мо Ваша ўласная ініцыятыва, што:

Купала і надалей фальсыфікуецца, у гэтым выпадку ягоны творчы працэс, ураналёгія яго.

Чаму Вы імкняцёся схаваць тое, што было — савецкая ўлада лаяла Купалу — гэтага ніколі схаваць ня ўдасца.

Навошта абцяжваць, ускладняць доступ да дакумэнтаў, прыкрываючыся „кірылічнай ураўнілаўкай" ды „беларусізацыяй"?

Калі-ж нарэшце Вам дазволяць карыстацца свабодна літаратурай як сваёй, гэтак і замежнай?

Усе гэтыя пытаньні-праблемы, як выглядае, ня йснуюць для Расейцаў. Расейцы не фальсыфікуюць сваіх паэтаў, яны карыстаюцца заходнімі й сваімі старымі часапісамі, яны ня круцяць бібліяграфічных формаў ды наагул ім, як здаецца, вальней жывецца. Прынамся нам тут на Захадзе гэтак выглядае.

**Вітаўт Кіпель**

### ПАДЗЯКА

**Высока Паважаным:**
**Прэзыдыюму Рады БНР,**
**Управе Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва,**
**Галоўнай Управе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня,**
**Рэдакцыі Газэты „Беларус".**

З глыбіні душы дзякую вам, Сябры й Супрацоўнікі, за ўвагу да мяне, за вашы прывітаньні з 80-мі ўгодкамі майго жыцьця й 60-мі ўгодкамі працы на беларускай нацыянальна-грамадзкай ніве.

Пры гэтай нагодзе хачу выказаць маю веру ў будучыню Беларусі і ў вас, як прадаўжальнікаў працы й змагароў за нашу вызвольную справу. Я веру, што недалёкі той час, калі беларускі народ здабудзе належную яму свабоду й дзяржаўную незалежнасьць. У гэтым — памажы нам Божа!

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч**

### ПАДЗЯКА

Усім прыяцелям і знаёмым, каторыя тэлефанавалі, замаўлялі малітвы, прысылалі шчырыя пажаданьні хутчэйшага майго выздараўленьня, наведвалі ў шпіталі, гэтым складаю сваю сардэчную падзяку.

Ваша прыяцельская маральная падтрымка дапамагала мне ня траціць надзеі ды лягчэй пераносіць цярпеньні апэрацыяў, а жонцы маёй дадавала сілы й вытрываласьці ў цяжкасьцях штодзённых клопатаў апекі нада мной.

**Г. Паланевіч**

### ПРА ДАКУМЭНТАЦЫЮ ПАДЗЕЯЎ ВАЙНЫ

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва 29 студзеня др. Я. Запруднік прачытаў рэфэрат на тэму „Дакумэнтацыя падзеяў Другое Сусьветнае Вайны на Беларусі" (у сувязі з кнігаю Дж. Лофтуса „Беларускі сакрэт"). Дакладчык прааналізаваў бальшыню дакумэнтаў, на якія спасылаецца Лофтус у сваёй кнізе, і паказаў, што Лофтус прадстаўляе падзеі ў хвальшывым сьвятле дзеля незнаёмленасьці з матар'яламі, неразуменьня мовы арыгіналаў ды проста дзеля злое волі й намаганьня прадставіць падзеі паводля надуманае схемы.

Др. Запруднік пазнаёміў аўдыторыю з новымі сьветчаньнямі, зь якіх відаць, што беларускі актыў у часе вайны асуджаў злачынствы Немцаў ды бараніў, наколькі можна было, усё мясцовае жыхарства.

Дакладчык зрабіў агляд англамоўнага друку, у якім шырака й даволі бяскрытычна паведамлялася пра Лофтусавы абвінавачаньні, ды прасіў, калі хто-небудзь ведае факты дапамогі з боку беларускага жыхарства палонным і перасьледаваным, прысылаць іх у БІНіМ або ў газэту „Беларус".

На тую-ж тэму др. Запруднік прачытаў 27 лютага рэфэрат у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Нью Брансьвіку на запросіны Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў.

### УДЗЕЛ У ФЭСТЫВАЛІ

Сёлета, гэта ўжо тройчы раз, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне брала ўдзел у Славянскім Фэстывалі, які штагоду ладзіцца Пэнсыльванскім Штатавым Унівэрсытэтам. У сёлетнім фэстывалі, што адбыўся 22-24 красавіка, апрача Беларусаў, узялі ўдзел Македонцы, Палякі, Расейцы, Сэрбы, Славакі, Славэнцы, Украінцы й Чэхі.

У фэстывалі, арганізаваным, як і папярэднімі гадамі, Факультэтам Славянскіх Моваў (пад кіраўніцтвам праф. Л. Капітонавай), была багатая мастацкая праграма, выстаўкі народнага мастацтва.

Беларуская выстаўка, разнастайная й прыгожая, была наладжаная ніжэй падпісанай і сп. Антонам Шукелайцем. На сталох былі раскладзеныя тканіны, ручнікі, інкрустацыі саломкай, тканыя паясы й дзяружкі, калекцыя лялек у народнай вопратцы, кнігі-альбомы зь беларускімі краявідамі, нацыянальнай вопраткай і народным мастацтвам.

Наведвальнікі з захапленьнем аглядалі беларускія экспанаты, пераглядалі альбомы, студэнты перачытвалі ангельскія тэксты ў іх.

Экспанаты нашае выстаўкі — гэта собскасьць сп-ні Юлі Андрусышынае, сп. Шукелайця й ніжэй падпісанае.

Вялікай удачай карысталася беларуская мастачка Надзя Лецяга-Шылінг з Гарысбургу, Пэнсыльванія, сваім дэманстраваньнем размалёўваньня вялікодных пісанак.

**Р. Станкевіч**

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Не заўсёды маўчаньне, як кажуць, — золата. Таму трэба гаварыць і пісаць тое, аб чым людзі ведаць павінны.

Так шмат напісана ў беларускай прэсе на тэму падзеяў у БАПЦ, што неасьведамленаму да канца чытачу ў гэтай справе цяжка толкам разабрацца. Разнабой інфармацыі ды паасобных інтэрпрэтацыяў у гэтай-жа прэсе, а часта аднабаковы й нясумленны падыход аўтараў да справы яшчэ больш гэтае пытаньне зацямняе.

Нямала месца ў гэтай пісаніне прысьвечана й маёй сьціплай асобе, якая незаслужана выстаўляецца ў ненайлепшым сьвятле ўва ўсіх гэтых падзеях.

Дык вось таму й пастанавіў я напісаць у рэдакцыю колькі радкоў, каб высьвятліць тое, што было цёмным і непраўдзівым навакол мае асобы.

У ЗША я ехаў на стараньні нябожчыцы матушкі Філямэны Войтанка, якая мела аба мне рэкамэндацыю ад свае знаёмае матушкі ў Польшчы. Матушка Філямэна ў сваіх лістох да мяне пісала, што тутэйшая беларуская парахвія па сьмерці ейнага сына-сьвятара патрабуе духоўніка й ці не згадзіўся-б я прыехаць на гэтую парахвію. Пасьля году часу ад гэтае прапановы я пастанавіў ехаць. Гэта быў 1973 год.

Спачатку цяжка мне было разабрацца ў факце існаваньня дзьвюх рэлігійна-палітычных групаў беларускае эміграцыі й пазнаць нюансы гэтага падзелу. „Усьведамленьне" прыходзіла ад двух бакоў, у выніку чаго я азнаёміўся з аргумэнтамі адных і другіх. Выснова была такая, што гэта няйнакш як вынікі трагічнага ў мінуўшчыне лёсу ўсяго беларускага народу. Здаецца, што ў мінулым, як і цяпер, беларускі епіскапат, духоўныя лідэры не занялі адпаведнага іхнаму пакліканьню становішча сярод свайго народу.

Мітрапаліт **Андрэй** Крыт дазволіў мне служыць у парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку. Ня маючы адпускное граматы ад Варшаўскага Мітрапаліта Васіля, браў я на сябе новыя абавязкі з абавай дысцыплінарных зь ягонага боку захадаў. Бо толькі ён і ніхто больш меў тады нада мною кананічна-юрыдычнае права.

Мітрапаліт Варшаўскі Васіль аднак пабацькоўску падыйшоў да справы й зразумеў, што за службу ягонага сьвятара сярод Беларусаў нельга караць нават тады, калі сьвятар апынуўся за межамі ягонае юрысдыкцыі. За гэта яму сардэчны беларускі дзякуй.

Парахвія Жыровіцкае Божае Маці запэўніла мне толькі памешканьне й 160 даляраў на месяц. Рада парахвіяльная раіла пайсьці на працу дзеля страховак ды іншых сацыяльных забясьпечаньняў, якіх сама ня здольная была даць мне. Уладзіўся я на начную зьмену ў тэкстыльнай хвабрыцы. Часта даводзілася пасьля „ўсяночнае" на хвабрыцы зраньня станавіцца да багаслужбы ў царкве.

Праходзілі гады. Мяняліся настроі ў людзей і стаўленьне да мяне новае адміністрацыі БАПЦ, якой, відаць, недаспадобы была часамі самастойнасьць новага сьвятара й нявыконваньне іншы раз непаважных распараджэньняў зь ейнага боку. Дагэтага, маючы закончаную духоўную сэмінарыю й акадэмію ды 13-гадовую на той час сьвятарскую практыку, магчыма, што выклікаў і зайздрасьць з боку мясцовых пратаярэяў.

Зразумела, што паўсталую атмасфэру выкарысталі людзі, якія бачылі ўжо на маім месцы, хоць і нясьпелых яшчэ, але-ж „сваіх" кандыдатаў. І гэтак, пачалася сымфонія усялякіх даносаў, паклёпаў і жальбаў на мой адрыс. На маім стале зьявіліся распараджэньні, пастановы, звальненьні, назначэньні. Гэтая папяровая дзейнасьць трывала да часу пакуль ня прыйшоў той, хто праз сьвецкі суд захацеў змусіць бальшыню парахвіянаў прызнаць яго за свайго настаяцеля. Пачалася цяганіна па судох. Гэта выклікала з боку шмат каго пратэсты: пачалі пісаць просьбы, а пасьля й пратэсты да Мітр. Андрэя, у Кансысторыю БАПЦ. Нажаль, адрасаты засталіся глухімі. Мала таго, якбы ў насьмешку над тымі, хто пратэставаў, чалавека, які запачаткаваў судовую справу, а. Яна Бруцкага, г. зв. Рада БАПЦ сваёй пастановаю вызначыла кандыдатам у епіскапы БАПЦ, не зважаючы на тое, што правілы 9-ае й 12-ае Чацьвертага Ўсяленскага Сабору забараняюць духоўным асобам судзіцца ў сьвецкіх судох, а калі гэта ўжо здарылася, дык гэткая асоба ня годная быць ня толькі кандыдатам у епіскапы, але й ня годная заставацца ў духоўным сане.

І вось, не зважаючы на ўсё гэта, а таксама й на пратэсты з боку Арх. БАПЦ Мікалая, украінскія епіскапы з удзелам Мітрапаліта Андрэя, хіратанізавалі а. Бруцкага ў епіскапы.

Беспасярэдняй прычынай звальненьня мяне з майго становішча настаяцеля парахвіі Сьвятое Божае Маці Жыровіцкае ў Гайленд Парку ў травені 1980 г. была мая адмова пераехаць на парахвію ў Кліўленд, Агаё. Адразу выканаць загад Мітрапаліта значыла для мяне страціць працу — галоўную крыніцу ўтрыманьня, страціць страхоўку й іншае сацыяльнае забясьпечаньне, а разам з тым і выпрацаваныя гады на пэньсію, ды ехаць, ня ведаючы, ці на новым месцы ўдасца што-небудзь дастаць. Усе мае тлумачэньні ў гэтым сэньсе былі Мітрапалітам адкінутыя.

У іншым падобным выпадку, пра які ведаюць усе прыхаджане, Мітрапаліт быў куды больш спагадлівы і людзкі да сьвятара БАПЦ, які пакінуў прызначаную яму парахвію ў Гайленд Парку толькі таму, што ягоная матушка не захацела пакінуць сваю працу ды перабрацца да мужа з другога штату. Усім ведамыя ўмовы працы сьвятароў БАПЦ на эміграцыі. Ніводная парахвія ня ў стане даць ім належнае ўтрыманьне, і таму яны змушаныя дадаткова працаваць у іншых установах. Значыцца, у маім выпадку была выяўная нястача добрае волі таго, хто выдаў загад. Вынікам было, што мяне абвінавацілі ў непаслушэнстве ды быў прысланы яшчэ адзін загад аб звальненьні ад служэньня ў БАПЦ. І ад гэтага мамэнту аўтаматычна спынілася мая зь Мітрапалітам Андрэям умова на служэньне ў ягонай епархіі ды ягонае да мяне, як да вольнага сьвятара, права. З таго часу ягоныя загады й рэзалюцыі на мой адрыс уважаю за няважныя й для мяне незабавязальныя.

Тымчасам, калі Арх. БАПЦ Мікалай, на просьбу бальшыні прыхаджанаў парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку, часова пераняў яе пад сваю духовую апеку, тады ён дазволіў мне служыць часова на старым месцы, згодна з жаданьнем прыхаджанаў. І гэта, відаць, так разгневала Мітрапаліта Андрэя й ягоных дарадчыкаў, што яны, забыўшыся пра папярэдняе звальненьне мяне з БАПЦ ды спасылаючыся на г. зв. Сабор Епіскапаў у травені 1981 г., выдаюць пастанову аб звальненьні мяне й пазбаўленьні сану. Гэткае пакараньне сьвятара дапушчаецца толькі ў выпадку парушэньня царкоўных канонаў або злачынства супраць Царквы. Ня думаю, ці іншы сьвятар БАПЦ (прыкладам, у Бэльгіі, Аўстраліі або Лёндане) без агаворкі пераехаў-бы на другую парахвію.

Ці-ж гэты зьдзек над вольным сьвятаром ня сьветчыць аб злой волі тых, якія яго ўчынілі? Ці-ж можна вініць іншых за тое, што духоўны лідэр страціў лідэрства, аўтарытэт і прызнаньне сярод сваіх вернікаў?

Ці-ж за тое, што прыхаджане парахвіі Жыровіцкае Божае Маці крытычна ацанілі занятае становішча да іх царкоўнага кіраўнічага органу, трэба адлучаць іх ад Царквы, абзываць сьхізматыкамі, адшчэпнікамі ды іншымі няпрыстойнымі эпітэтамі? Царкоўная адміністрацыя мусіла-б ведаць, што Царква — гэта-ж жывыя людзі, якія маюць права ўгляду ў ейныя дзеяньні. Гэта пацьвярджае й сьв.. Амброжы, кажучы: „Царква — гэта пэўная форма справядлівасьці, агульнае права ўсіх. Яна супольна моліцца, супольна працуе, супольна выпрабоўваецца, **супольна кіруецца"** ... Бо-ж ніхто іншы як люд Божы стаіць на варце свае веры й перахоўвае ў сабе ейныя найстарэйшыя традыцыі саборнасьці. У Царкве голас народу — голас Божы, і толькі неразумны можа яму супрацівіцца. Прызнаюцца людзьмі толькі тыя лідэры, якія вядуць да праўды, згоды й адзінства.

На заканчэньне хачу шчыра падзякаваць усім людзям добрае волі, якія, зразумеўшы вытвараную атмасфэру, выказалі зразуменьне, шмат добрага сэрца й маральнага

( (Працяг на б. 6-й)

